ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК

САКАВІК, **2012**

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

**Уладзе трэба моцна падумаць, перш чым забараняць выезд за мяжу**

СТАР. 2

**Іван Шыла: у камерах на Акрэсціна вошы да пацукі**

СТАР. 3



# Алеся Бяляцкага перавялі ў бабруйскую калонію

Падтрымаем Алеся! Ён чакае нашых лістоў! Пішыце несправядліва асуджанаму праваабаронцу на адрас калоніі.

**Пра гэта паведаміла жонка праваабаронцы Наталля Пінчук, якая 28 лютага наведала менскае СІЗА-1.**

Такую інфармацыю ёй даў дзяжурны СІЗА. На этапе перапраўкі ў калонію ў менскім СІЗА Алесь Бяляцкі прабыў 11 дзён. З жодзінскай турмы № 8 на “Валадарку” яго прывезлі 17 лютага. Пра гэта ён паведаміў сваім сябрам у лісце на мінулым тыдні.

У Бабруйскай папраўчай калоніі №2 старшыня Праваабарончага цэнтра “Вясна” мусіць адбываць пакаранне паводле прысуду суда Першамайскага раёна Менска 4,5 гады пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Суддзя Сяргей Бандарэнка прызнаў яго вінаватым ва ўхіленні ад падаткаабкладання. Сваёй віны Алесь Бяляцкі не прызнаў, назваўшы прысуд палітычным. Грошы на яго рахунках у Літве і Польшчы не з'яўляліся яго ўласнасцю, а накіроўваліся на дапамогу рэпрэсаваным, аплату адвакатаў і іншыя праваабарончыя патрэбы. Судовая калегія Менгарсуда, якая 24 студзеня разгледзела касацыйную скаргу праваабаронцы, пакінула прысуд Бяляцкаму ў сіле.

***Паштовы адрас калоніі: ПК №2. 213800, Магілёўская вобл., г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1.***

# Гомельскія палітыкі ды грамадскія актывісты аб выбарах у Расіі

*Што думаюць пра выбары у Расеі гомельскія палітыкі ды грамадскія дзеячы?*

**Каардынатар кампаніі “За справядлівыя выбары” па Гомельскай вобласці Уладзімір Кацора:**

- Абвешчаны вынік выбараў у Расеі заканамерны, паколькі пры алігархічна-аўтарытарнай уладзе складана з'явіцца іншай палітычнай сіле. Магчыма, спробай такога з'яўлення з'яўлялася вылучэнне алігарха Прохарава, які ўжо заявіў аб стварэнні новай палітычнай партыі. З іншага боку расійскаму рэжыму далёка да беларускага, які ўжо не лічыць нават галасы на выбарах.

**Старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі АГП Андрэй Толчын:**

- Выбары ў Расеі падобныя на так званыя беларускія выбары - было відавочна, што ўлада распачне усё магчымае і немагчымае, што б і далей клан Пуціна заставаўся ў Крамлі. Вынік гэтых выбараў быў вядомы загадзя. На жаль, не даводзіцца казаць пра роўнасць, празрыстасць і сумленнасць выбараў, якія прайшлі у Расеі.

**Старшыня Гомельскай гарадской арганізацыі «Прававая ініцыятыва" Леанід Судаленка:**

- На мінулых выбарах у 2008 годзе Пуцін зрабіў учынак, які заслугоўвае павагі - ён не пайшоў на «распілоўванне» Канстытуцыі. Зараз жа ён паказаў, што хоча правіць пажыццёва, а гэта азначае для Расіі стагнацыю, зварот да мінулага і маргіналізацыю. Думаю, зараз Пуцін будзе ва ўладзе як мінімум да 2024 года. Гісторыя паказвае, што палітык, які знаходзіцца дзесяцігоддзямі ва ўладзе ніколі для краіны не прыносіць росквіту. Давайце паглядзім на Еўропу, Амерыку. Змяняюцца прэзідэнты і нічога, краіны развіваюцца - незаменных людзей не бывае!

**Працяг на 2 стар.**



# Стэфановіч не будзе ўнесены ў спіс невыязных



**У апошні дзень перад канфіскацыяй маёмасці праваабаронца сплаціў 57 мільёнаў штрафу, прысуджанага яму па паралельнай з Алесем Бяляцкім справе.**

13-га лютага намесніка старшыні праваабарончага цэнтру “Вясна” канчаткова прызналі вінаватым ва ухіленні ад аплаты падаткаў і прымусілі сплаціць пеню ды штраф у памеры амаль сямі тысяч даляраў ЗША.

У выпадку нясплаты гэтай сумы праваабаронцу пагражала канфіскацыя ўласнай маёмасці ды забарона на выезд з краіны. Аднак цяпер, па словах Валянціна Стэфановіча, такая пагроза мінавала:

***- Сёння я мушу з'явіцца да судовага выканаўцы, бо заканчваецца гэты сямідзённы тэрмін. Я штраф аплаціў яшчэ ў пятніцу. Пазычыў грошы, шмат хто пагадзіўся мне дапамагчы. Я не павінен быць унесены ні ў якія спісы, таму што добраахвотна выканаў абавязацельства. І ніякіх наступстваў быць не павінна.***

Падставай для пераследу Валянціна Стэфановіча стала банкаўская інфармацыя пра рахункі праваабаронцы, перададзеныя беларускай пракуратуры Міністэрствам замежных спраў Літвы.

У снежні мінулага году кіраўнік цэнтру “Вясна” Алесь Бяляцкі па падобным абвінавачванні быў асуджаны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Ні Валянцін Стэфановіч, ні Алесь Бяляцкі вінаватымі сябе не прызналі, бо грошы на іхніх рахунках не былі іх асабістым прыбыткам, а прызначаліся на праваабарончыя мэты.

Радыё “Рацыя”




## Леанід Судаленка: уладзе трэба моцна думаць, перш чым ісці на гэты крок

Праваабаронца ўпэўнены, што ўсе абмежаванні на выезд з краіны сёння прапісаны ў законе і калі раптам там з'явіцца норма, якая абмяжоўвае правы законапаслухмянага грамадзяніна, па-за усялякіх сумневаў заканадавец уступіць у супярэчнасць не толькі з Асноўным Законам - Канстытуцыяй, але і шэрагам міжнародных дагавораў.

Нагадаем, з'явілася інфармацыя, што ў Беларусі створаны спіс з 108 прозвішчаў людзей, якім можа быць абмежаваны выезд з Беларусі.

Леанід Судаленка не выключае, што ўлада ў існуючых абставінах можа пайсці на такі крок, аднак пры адкрытасці межаў з Расіяй патрэбнага эфекту дамагчыся будзе вельмі цяжка.

Пачатак на 1 стар.:

**Прадстаўнік "Нашай альтэрнатывы" у Гомелі Кастусь Жукоўскі:**

- Думаю, што дзякуючы прапагандзе і адміністрацыйнаму рэсурсу Пуцін набраў больш за 50% галасоў і гэта законамерна - у 90-я гады Расейская ўлада праводзіла ў краіне не рэформы, а палітычнае “бязмежжа”, анархію і разрабаванне краіны. Улада скампраметавала паняцце “дэмакратыя”, тым самым быў закладзены падмурак недавеpу у дэмакратычныя інстытуты ўлады. Таму мы сёння назіраем працэсы якія адбываюцца ў Расеі. Трэба аддаць належнае Пуціну што ён не ў поўнай меры скарыстаўся сваімі магчымасцямі. Расейцам патрэбен цар яны яго і атрымалі.

**Намеснік старшыні Гомельскай абласной арганізацыі АГП Марат Афанасьеў:**

- Асабіста мяне вынікі выбараў у Расеі не задаволілі, пачынаючы ад фарміравання выбарчых камісій, назірання і заканчваючы падлікам галасоў. Тая крытычная інфармацыя, якая чутная сёння аб «каруселях», ўкідванні бюлетэняў і сістэма адмацавальных талонаў сведчыць аб тым, што методыка фальсіфікацый ў Расіі паспяхова працуе, нягледзячы на паўсюднае відэаназіранне. Дай бог расейскай уладзе пазбегнуць расколу грамадства, а камандзе, якая перамагла выканаць перадвыбарныя абяцанні.

**Член Нацыянальнага камітэта АГП і рэспубліканскага савета кампаніі "Гавары праўду", вядомы навуковец Юры Варонежцаў:**

- Я думаю, што Пуцін сапраўды перамог у першым туры, паколькі у яго сур'ёзная падтрымка сярод тых груп насельніцтва, якія адчулі паляпшэнні ў сваім матэрыяльным становішчы ў апошнія 10 гадоў. Дэмакратычныя каштоўнасці іх не занадта хвалююць, з імем Пуціна яны звязваюць пэўную стабільнасць і надзеі на далейшыя паляпшэнні. Да гэтай падтрымцы дадалі адміністрацыйны рэсурс і масіраваную прапаганду - вось і вынік. З пазітыўных момантаў хацеў бы адзначыць той відавочны факт, што грамадства ў Расеі нарэшце прачнулася і прымушае прыслухоўвацца да сябе кіруючую групоўку.

асабістая інфармацыя сайту http://gomelspring.org/



## Уладзімір Кацора абскарджвае ў Камітэце ААН па правах чалавека штраф за Народны сход

Гомельскі апазіцыянер Уладзімір Кацора звярнуўся са скаргай у Камітэт ААН па правах чалавека. Актывіст лічыць, што беларускія ўлады ў асобе міліцыянераў, затрымаўшы яго за арганізацыю Народнага сходу і пакараўшы штрафам, парушылі артыкулы 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, а менавіта права на свабоду распаўсюду інфармацыі і мірных сходаў.

У звароце ў Камітэт ААН апазіцыянер нагадвае, што Народны сход праводзіўся менавіта ў адпаведнасці з законам «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах». Разам з тым, на судзе Уладзіміру Кацору інкрымінавалі парушэнне закону «Аб масавых мерапрыемствах».

*«Супрацоўнікі міліцыі не мелі законнага права кваліфікаваць мае дзеянні нормамі закону «Аб масавых мерапрыемствах», паколькі гэтыя дзеянні па распаўсюджванні друкаванай прадукцыі з заклікамі да ўдзелу ў мясцовым сходзе рэгулююцца законам «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах». Маё права на свабоду правядзення мірных сходаў было абмежавана, а па якой прычыне ні міліцыя, ні суд мне гэтага не патлумачылі», - каментуе Уладзімір Кацора.*

Ён лічыць, што артыкул 8 закона «Аб масавых мерапрыемствах» абмяжоўвае права на свабоду распаўсюджвання інфармацыі і не можа адпавядаць міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь, паколькі не матывавана інтарэсамі дзяржаўнай ці грамадскай бяспекі, грамадскага парадку, аховы здароўя ці абароны правоў і свабоды іншых асоб.

## Іван Шыла: у камерах на Акрэсціна вошы ды пацукі

4 сакавіка, пасля 19 сутак зняволення ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна, быў вызвалены намеснік старшыні "Маладога Фронту" Іван Шыла, арыштаваны напярэдадні ўручэння прэміі "Люблю Беларусь". Ён дзеліцца сваімі ўражаннямі пра ўмовы ўтрымання.

*- Трэба адзначыць, што пэўны прагрэс ва ўмовах утрымання ў гэтым ізалятары за апошні час усё ж адбыўся, - кажа маладафронтавец. - Мне дазволілі мець спальнік, стала вадзілі на прагулкі, ажно чатыры разы схадзіў у душ. Год назад з усім гэтым былі праблемы. Зрэшты, болей маладзён казаў пра праблемы. У першыя дні ўтрымання ў яго пачалася алергія. Ягоныя просьбы выклікаць "хуткую" адхіляліся. Мясцовы медык дапамагчы не мог з-за адсутнасці патрэбных лекаў.*

*- Лекі нават нібыта замовілі пасля маёй просьбы, але з'явіцца яны мусілі толькі ў сакавіку. Каб не бацькі, якія праз паплечнікаў з МФу перадалі мне ўсё самі, дык без шпіталізацыі не абышлося б, - працягавае Іван Шыла. - Але ўсё адно распухла ды патрэскалася скура на твары, рукі таксама пакрыліся ад алергіі нейкімі плямамі. Безумоўна, у нармальных санітарна-гігіенічных умовах такога ў мяне быць не можа.*

Нягледзячы на магчымасць карыстацца спальнікам, тэмпературныя ўмовы адбывання пакарання былі далёкімі ад нармальных. З-за скразнякоў, вільготнасці ды перападаў тэмпературы здаровы дваццацігадовы хлопец захварэў на бранхіт, пазбавіцца ад якога турэмных умовах не дапамаглі нават антыбіётыкі.

Самым жа цяжкім уражаннем для маладзёна стала не абвастрэнне алергіі ды перыядычны холад і вільготнасць у камеры, а пацукі ды вошы, якія стала па ёй снаўдалі.

Нагадаў маладзён і пра праблемы з перапіскай. Ніводнага ліста, тэлеграмы ды паштоўкі яму так і не перадалі. Ды і свае лісты дадому, як высветлілася, маладзёну прыходзілася дасылаць не праз адміністрацыю, а выключна праз сукамернікаў, якія перыядычна вызваляліся з-пад варты.

## Гомельскія праваабаронцы скардзяцца ў Камітэт ААН па правах чалавека

**Гомельскі праваабаронца Анатоль Паплаўны накіраваў скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека ад сваёй асобы і ад імя калегі Леаніда Судаленка. Праваабаронцы мяркуюць, што іх правы, зацверджаныя артыкуламі 19 і 21 у сукупнасці з артыкулам 2 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах былі парушаны беларускімі ўладамі.**

Сутнасць справы ў тым, што напярэдадні прэзідэнскіх выбараў 2010 года Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка звярнуліся ў Гомельскі гарвыканкам за дазволам на правядзенне пікету, прымеркаванага да Дня правоў чалавека, на якім праваабаронцы жадалі звярнуць увагу выбаршчыкаў на іх права адмовіцца ад дэтэрмінаванага галасавання. Гарадскія ўлады масавае мерапрыемства не дазволілі. Раённы суд стаў на бок гарвыканкаму, а абласны суд зацвердзіў рашэнне раённага. Таксама і Вярхоўны суд, дзе абскарджвалі рашэнне праваабаронцы, не задаволіў іх скаргу. Такім чынам, унутраныя сродкі прававой абароны былі вычарпаны, засталося спадзявацца на міжнародную інстанцыю Камітэт ААН па правах чалавека.

У скарзе заяўнікі звяртаюць увагу, што ў амаль 500-тысячным горадзе Гомелі ўлады вызначылі толькі адно месца для правядзення пікетаў і мітынгаў, а за правядзенне мірных сходаў грамадзяне павінны яшчэ і заплаціць міліцыі, хуткай дапамозе і камунальным службам.

Працяг на 2 стар.

# Сябар АГП **Зінаіда Шуміліна** накіравала скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека



Сябра АГП з Гомеля Зінаіда Шуміліна накіравала індывідуальную скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека. Яна лічыць, што разам з паплечнікамі пацярпела ад дзеянняў беларускіх уладаў. Канфліктная сітуацыя, якая патрабуе ўмяшальніцтва міжнароднай структуры Камітэта ААН па правах чалавека, пачалася ў лютым мінулага года.

Тады Зінаіда Шуміліна і яшчэ 12 чалавек падалі заяўкі на правядзенне ў Гомелі пікетаў з мэтай прыцягнення ўвагі да палітычнага пераследу былых кандыдатаў ў прэзідэнты, якія паслы выбараў трапілі ў турмы.

Улады адмовілі у правядзенні масавых мерапрыемстваў, а суд Цэнтральнага раёна Гомеля, дзе было абскарджана дадзенае рашэнне, стаў на бок уладаў. Таксама і Гомельскі абласны суд пакінуў рашэнне ніжэйстаячай інстанцыі без зменаў. Не пачуў апазіцыянераў і Вярхоўны суд, які 23 студзеня 2012 года пакінуў рашэнне без зменаў, а скаргу заяўнікаў без задавальнення.

Выкарыстаўшы ўсе ўнутраныя сродкі прававой абароны, грамадзянка звяртаецца ў Камітэт ААН па правах чалавека. Зінаіда Шуміліна лічыць, што дзяржава, а ў прыватнасці, Гомельскі гарвыканкам, парушае сваім рашэннем аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў правы грамадзян.

Па-першае, у амаль паўмільённым горадзе вызначана толькі адна пляцоўка для правядзення пікетаў і мітынгаў, па-другое, заяўнікі масавых мерапрыемстваў абавязаны падпісаць дамовы з шэрагам спецыяльных службаў камунальнікамі, міліцыяй і хуткай дапамогай, і аплаціць іх паслугі. Такая практыка прыводзіць да парушэння права на свабоду правядзення мірных сходаў і на свабоду выказвання свайго меркавання, то бок да парушэння артыкулаў 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Заяўнік лічыць, што забарона ўладаў на правядзенне мірных сходаў не з'яўляецца неабходнай у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны здароўя насельніцтва, правоў і свабоды іншых асоб.

Зінаіда Шуміліна ў скарзе выказвае думку, што Рэспубліка Беларусь не выконвае свае абавязкі па сэнсу п.2 арт.2 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі закон «Аб масавых мерапрыемствах» утрымлівае двухсэнсоўныя і расплыўчатыя нормы, якія, без сумневу, могуць тлумачыцца і тлумачацца па-рознаму. Заяўнік нагадвае, што нават у адзіным дазволеным месцы ў Гомелі ўлады забаранілі правядзенне больш чым 70 заяўленых мерапрыемстваў за 2011 год.

Зінаіда Шуміліна просіць Камітэт ААН разгледзець яе скаргу па сутнасці, вызначыць, што дзяржава парушыла яе правы, і параіць беларускаму ўраду прывесці нормы закона «Аб масавых мерапрыемствах», а таксама рашэнне Гомельскага гарвыканкаму ў адпаведнасць з міжнароднымі абавязкамі, а менавіта артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах.

**Спецыяльна для сайта**
**http://gomelspring.org/**
**Зміцер Літвінаў**

---

**Пачатак на 1 стар.:**

*“Нам не зразумела, для дасягнення якой мэты абмежавана наша права на правядзенне мірных сходаў для выказвання свайго меркавання. Лічым, што забарона мясцовых уладаў на правядзенне мірных сходаў не з'яўляецца неабходнай у інтарэсах нацыянальнай бяспекі, грамадскага парадку, абароны здароўя, правоў і свабоды іншых асоб”, - акцэнтуюць увагу праваабаронцы.*

Яны лічаць, што краіна не выконвае свае абавязкі па сэнсу артыкула 2 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі нормы нацыянальнага закону “Аб масавых мерапрыемствах” утрымлівае двухсэнсоўныя і расплыўчатыя нормы, якія могуць тлумачыцца і тлумачацца гарадскімі уладамі па-рознаму.

Леанід Судаленка і Анатоль Паплаўны просяць Камітэт ААН устанавіць факт парушэння іх правоў на свабаду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання з боку дзяржавы і раіць беларускаму ўраду прывесці закон “Аб масавых мерапрыемствах” у адпаведнасць міжнародным абавязкам.

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.